


# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

15 студзеня 2021 года №3 (1342) 18+


# Чаму для «Асобы года-2020» Вольгі Шостак узнагарода ад «РГ» важней за Нобелеўскую прэмію



старонка 2

Пагутарылі з сёлетняй пераможцай штогадовай акцыі «Асоба года» віляйчанкай Вольгай Шостак пра перамогу, педагогіку, актывізм, штрафы і салідарнасць.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Вілейчука асудзілі за адзіночны беспрапынны чатырохмесячны пікет старонка 20

У Маладзечне праходзіць першы суд па крымінальнай справе за 9 жніўня старонка 21

Рубрыка «Таршэр». Якія творы мастацтва абірае смаргонка, выхавальніца беларускамоўнай групы Эдзіта Бранцэвіч старонка 18

Малочны камбінат у Маладзечне гатовы перайсці на беларускамоўную ўпакоўку старонка 3

ISSN 1991–7155



Адсканууйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# «Асоба года-2020»: Ваша ўзнагарода даражэй за Нобелеўскую прэмію

ВІЛЕЙКА

**У рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты» мы ўзнагародзілі пераможцу нашай штогадовай акцыі «Асоба года», віляйчанку, педагога, актывістку Вольгу Шостак. Яе мы адзначылі за грамадзянскую пазіцыю.**




Галоўны рэдактар «Рэгіянальнай газеты» Аляксандр Манцэвіч узнагароджвае Вольгу Шостак.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Вольга расказала пра любімую працу, з якой прыйшлося звольніцца, пра збор подпісаў за кандыдата ў прэзідэнты, пра штрафы, якія хутка сабралі вілейчукі, і перамогу ў нашай акцыі.

## Пра перамогу ў акцыі «Асоба года»

– Пра галасаванне і перамогу даведалася праз сацсеткі. У вашым спісе было многа годных людзей. Сама галасавала за віляйчанку **Ларысу Якавюк**. Яна шмат робіць у экалагічным кірунку, часам мы супрацоўнічалі. Таму вырашыла падтрымаць зямлячку.

Калі даведалася пра перамогу, з аднаго боку, было вельмі прыемна, з іншага, разумела, што гэта не толькі мая перамога, а перамога каманды актывістаў рэгіёна, з якімі я супрацоўнічала сёлета.

Часта думала пра тое, што ж такое робяць людзі, каб перамагчы ў вашай акцыі. Гэта перамога, на маю думку, куды важней, чым Нобелеўская прэмія. Бо гэта сведчыць аб прызнанні маіх землякоў.

## Пра выбар прафесіі педагога

–Я–дачка настаўнікаў з Касцяневічаў. Бацькі, **Зінаіда Анастасьеўна** і **Вячаслаў Станіслававіч Марцюгі,** працавалі ў мясцовай школе. Бацька выкладаў матэматыку, фізіку і інфарматыку, матуля – геаграфію. Потым яна была намеснікам дырэктара, дырэктарам.

Роднай школы ўжо няма. Яе зачынілі, будынак знеслі. Нават няма куды прыехаць. Гэта шчымліва. Бо ў нас былі вельмі добрыя настаўнікі, з актыўнай пазіцыяй. Магчыма, мой актывізм пачаўся са школы. Бо настаўнікі данеслі, што важна не толькі мець добрыя адзнакі, але і быць актывістам па жыцці.

У школе ўдзельнічала ў абласных этапах алімпіяды па геаграфіі. І паставіла мэту – паступіць на геафак у БДУ. Што і зрабіла. Бацькі не адгаворвалі. Відаць, таму, што вельмі любілі сваю працу. Паступіла на факультэт, дзе некалі вучылася мая мама, а потым – сястра.

Студэнцтва прыпала на няпросты час – канец 1990-х – пачатак 2000-х, крызіс. Але ў нас былі неверагодныя педагогі. Яны аб'ездзілі ўвесь свет і пра далёкія краіны расказвалі не па кніжках, а з уласнага досведу. Запомнілася выкладчыца па беларусазнаўстве і выкладчык па матэматыцы. Апошні прыехаў з Расіі, але вывучыў беларускую мову і матэматыку выкладаў па-беларуску. Для мяне – выпускніцы беларускамоўнай школы – гэта было зручна.

## Пра «Планету навуковых цудаў»

– Пасля ўніверсітэта накіроўвалі ў школу ў Пагост на Вілейшчыне. Але потым прапанавалі працу на станцыі юных натуралістаў у Вілейцы. Ёй загадваў **Войцех Канецкі**. Некалькі год працавала з ім. Пасля шмат вучылася ў свайго метадыста **Наталлі Сухан**.

У межах гуртка і пачалася мая актыўнасць. Прыходзілі дзеці, мы нешта прыдумвалі, праводзілі мерапрыемствы ў школах, складалі экалагічныя казкі, удзельнічалі ў раённых конкурсах, выступалі на гарадскіх пляцоўках. Менавіта дзеці канчаткова навучылі мяне быць актыўнай. Каб вучні хадзілі на гурткі, з імі трэба быць шчырымі і ўвесь час нешта прыдумваць. Праграма ёсць, але ў дзяцей можа быць іншы настрой. Была вельмі дружная група, з якой я працавала тры гады. Дзяўчаты адтуль пайшлі на медыкаў, абралі той кірунак, якім займаліся ў гуртку.

Пасля дэкрэтнага перайшла метадыстам у інтэлектуальны цэнтр. Паглыбілася ў навуковую і даследчую дзейнасць. Пачала шукаць напрамак, які быў бы цікавы дзецям. Так з'явілася «Планета навуковых цудаў». Адразу пачыналі працаваць са смеццем, з тым, што побач. Разам з дзецьмі праводзілі фізічныя і хімічныя доследы. Звяртала ўвагу на тое, каб доследы былі бяспечныя. Як настаўнік і як мама ведала: дзіця захоча дома паўтарыць. Праводзілі самыя простыя – з паветрам, вадой, содай, цукрам, соллю, вітамінам С.

Шмат выступалі. Адразу, каб дзеці не саромеліся, здымалі відэаролікі і адпраўлялі іх на конкурсы – у Магілёў, у Казань. З Казані нам даслалі дыпломы. Пасля паказвалі доследы на масавых мерапрыемствах у Вілейцы. Былі ў Барысаве, Мінску, летась прадстаўлялі Мінскую вобласць у «Зубраняці». А ў конкурсе Social Weekend нашу каманду ўзнагародзілі навучаннем.

## Пра СТЭМ-клас у Цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі

– Хацелася стварыць нейкі праект, каб атрымаць фінансаванне для далейшага развіцця «Планеты», набыць наборы, якія дазваляюць праводзіць больш доследаў, рабіць гэта прафесійна. Шмат пісала заявак на гранты. Было не проста, мы прывыклі да адмоў, але не здаваліся.

На адным з конкурсаў я прадставіла свой досвед і як спецпрыз выйграла планшэты. Зрабілі маленькі СТЭМ-клас у Цэнтры дадатковай адукацыі. Паклалі туды гэтыя планшэты. І больш там нічога не было. А потым нас заўважыла і падтрымала IT-кампанія, нам падарылі 3D-прынтар. Дзякуючы дырэктару СШ №3 **Мікалаю Гіро** і Беларускаму дзіцячаму фонду ў нас з'явіўся канструктар «Мехатроніка». Атрымалася добрая база.

## Пра тое, як прыйшла да грамадскай дзейнасці

– Чаму вырашыла заняцца зборам подпісаў падчас выбарчай кампаніі? Па-першае, у творчым плане быў дасягнуты Эверэст. Хацелася праявіць сябе ў іншым. Па-другое, бачыла, што мая праца патрэбная мне і дзецям, а вось бацькам – не асабліва. Вельмі мала было бацькоў, якія цікавіліся нашай дзейнасцю.

Да пэўнага часу я жыла ў сваім свеце – пазітыўныя дзеткі, навуковыя цуды, усмешкі. Аказалася, свет не такі ўжо і радасны. Бацькам маіх вучняў няма калі цікавіцца нашай навуковай дзейнасцю і дзякаваць педагогам за поспехі. Яны думаюць пра іншае: як выжыць, як зарабіць. Значыць, у краіне нешта не так.

Як географ я гляджу на іншыя краіны. Бачу, якія неверагодныя тэхналогіі там. І хачу, каб мая Беларусь была на ўзроўні, а не плялася ззаду. Вырашыла: трэба нешта мяняць. Таму падалася ў групу па зборы подпісаў за Ціханоўскую.

## Пра збор подпісаў

– Акунулася ў гэту актыўнасць, пазнаёмілася з актывістамі рэгіёна, адчула іх падтрымку. Раней думала, што актыўныя, высока маральныя, неабыякавыя людзі недзе далёка. Аказалася, іх шмат побач.

Збор подпісаў – гэта вельмі станоўчы досвед. Раней я бачыла, што дзеці ўмеюць шчыра радавацца. Цяпер убачыла шчырую радасць і надзею ў вачах дарослых. Падчас збору подпісаў людзі ставіліся паважліва і прыязна адзін да аднаго і да нас. Напрыклад, у Смаргоні чарга была тры гадзіны. Людзі стаялі спакойна, ніхто не папракаў мяне, што марудна пішу. Нават прапанавалі адпачыць, паілі кавай. Збор подпісаў акрыліў. У Вілейцы, Маладзечне, Смаргоні, Мядзеле, Ашмянах, Ільі я ўбачыла шмат людзей, якія хочуць змен.

## Пра звальненне з любімай працы

– Прычыны дзве – ідэалогія і бяспека. Я не магу маніць дзецям, казаць ім пра тое, што ў нашай краіне цэняць IT-спецыялістаў, калі IT-кампаніі з'язджаюць з Беларусі. Не магу казаць пра тое, што ў беларускім грамадстве цэняць камунікацыі, камунікабельнасць, крытычнае мысленне. Бо многія з тых людзей, якія валодаюць крытычным мысленнем і гатовыя адстойваць сваю пазіцыю, сёння за кратамі.

А яшчэ, як аказалася, у маю кватэру могуць прыйсці сілавікі і напалохаць маіх дзяцей. Такое ўжо было.

Пакуль я не працую. Сям'ю забяспечвае муж, дапамагаюць бацькі.

## Пра салідарнасць

– Слова 2020 года – гэта, безумоўна, слова «салідарнасць». Яе я адчула і падчас збору подпісаў, і тады, калі вілейчукі вельмі хутка сабралі мне грошы на абодва штрафы, прысуджаныя Вілейскім судом па артыкуле 23.34.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

# За вайсковай часцю ў Красным высякаюць лес

## Жыхары абураюцца. Лясгас тлумачыць

МАЛАДЗЕЧНА

**У рэдакцыю звярнулася чытачка, жыхарка сталіцы Алена Рагачэўская. Яна мае дом у вёсцы Касцюшкі, побач з Красным, і часам прыязджае сюды. Падзялілася, што вельмі непрыемна здзівілася, калі пабачыла, што за вайсковай часцю ў Красным сталі высякаць лес.**

– Наш лес вельмі прыгожы, зручны. Тут нават дзіця не заблукае. Заўсёды раслі буйныя чарніцы. Стаяла альтанка, людзі адпачывалі тут, смажылі шашлыкі. Але заўсёды было чыста.



Фотаздымкі забяспечаны чытачкай.

Так выглядаў лес да высечкі.

**Мясцовых жыхароў вельмі непакоіць і абурае, што лес пачалі высякаць. Яшчэ да новага года ўсё было добра. Пілаваць пачалі ад пачатку студзеня, – падзялілася чытачка.**

Мы звярнуліся ў Маладзечанскі лясгас. Тут растлумачылі, што лес за вайсковай часцю высякаюць, бо дрэвы ў ім ужо выспелі. Дзейнічаюць згодна з усімі дакументамі, нічога не парушаюць. Па стандартах спелым лічыцца дрэва, якому 90 год. Такія і высякаюць.

Тут высекуць чатыры гектары лесу, а замест старых дрэў пасадзяць новыя.

**Па словах спецыялістаў, згодна з дакументамі, у бліжэйшыя дзесяць год на Маладзечаншчыне будуць высякаць спелыя лясы.**

І ў лясгасе гатовыя да таго, што людзі будуць хвалявацца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



А так цяпер.

## Малочны камбінат гатовы перайсці на беларускамоўную ўпакоўку

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра гэта нам расказала прадстаўніца грамадскай ініцыятывы «Умовы для мовы» Аліна Нагорная.**

– Мы запусцілі кампанію «Беларускаму малаку – беларуская мова!», бо большасць брэндаў зусім не ўжывае беларускую мову, быццам беларускамоўных беларусаў не існуе. На сваім сайце мы сабралі ўсе малочныя брэнды Беларусі. Сэнс у тым, што кожны ахвотны можа дасылаць звароты з просьбай выкарыстоўваць беларускую мову на ўпакоўцы часткі малочных кампаній. За гэта атрымлівае ад нас налепкі і магніцік, – тлумачыць Аліна.

Адзін з удзельнікаў даслаў зварот на малочны камбінат у Маладзечне. Вось які адказ атрымалі ад прадпрыемства:

«Мы з вялікай павагай ставімся да роднай беларускай мовы. ААТ «Маладзечанскі малочны камбінат» уваходзіць у склад ААТ «Мінскі малочны завод №1» – кіруючая кампанія холдынгу «Першы малочны». ААТ «Мінскі малочны завод №1» – кіруючая кампанія холдынгу «Першы малочны» паведаміла, што па меры выкарыстання наяўнай упакоўкі станоўча разгледзіць гэтае пытанне (...). Мы падтрымліваем вас у імкненні бачыць тавары з маркіроўкай на беларускай мове».

– Гэта значыць, што беларуская мова на ўпакоўцы з'явіцца, калі скончыцца наяўны запас упаковак і этыкетак, – адзначае Аліна Нагорная.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**879**

столькі месцаў прапануюць дашкольныя ўстановы на тысячу дзяцей

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 6.01 | 14.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5821 | **2.5696** |
| Еўра | 3.1703 | **3.1368** |
| Злоты, 10 | 6.9727 | **6.9198** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4631 | **3.4919** |
| Грыўня, 100 | 9.0927 | **9.1903** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **5.01** | **13.01** |
| Еўра | 3.1000/3.2000 | **3.1000/3.2000** |
| Долар ЗША | 2.5500/2.6300 | **2.5400/2.6200** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **5.01** | **13.01** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 22,56 | **23,96** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,25 | **3,10** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,76 | **7,87** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,20 | **4,70** |
| Селядзец, 1 кг | 4,40 | **5,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,70 | **17,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,40 | **3,50** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | **5,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,30 | **3,00** |
| Агуркі, 1 кг | 5,50 | **4,80** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,90 | **2,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,80 | **0,40** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **0,60** |
| Капуста, 1 кг | 0,50 | **0,45** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Памідоры, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Перац, 1 кг | 6,90 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,70 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | **5,50** |
| Авакада, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,70 | **2,60** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **4,90** |
| Гранат, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,00 | **4,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **2,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,60 | **2,30** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## У Насілаве міліцыянеры забралі дзевяцімесячнае дзіця ў п'янай маці

МАЛАДЗЕЧНА

На лінію 102 звярнуліся жыхары вёскі Насілава. Яны паведамілі, што 36-гадовая жанчына злоўжывае спіртным на працягу апошніх двух тыдняў і ўвесь гэты час з ёй знаходзіцца 9-месячнае немаўля.

Калі міліцыянеры прыехалі на месца, у доме заспелі п'яную маці, побач з ёй на канапе ляжаў маленькі хлопчык.

На пытанні супрацоўніка міліцыі жанчына не магла даць выразных і зразумелых адказаў. Пры гэтым не адмаўляла, што ўжывала спіртныя напоі. У доме было холадна. Як пазней высветлілася, па нейкіх прычынах жанчына з дзіцем спалі ў суседзяў. Відавочна, што сына маці даглядае недастаткова добра.

Занепакоеныя здароўем немаўляці, міліцыянеры забралі дзіця і перадалі яго медыцынскім работнікам для шпіталізацыі ў дзіцячую бальніцу Маладзечна. Дактары папярэдне паставілі хлопчыку дыягназ ВРВІ.

Па дадзеным факце супрацоўнікі інспекцыі па справах непаўналетніх правялі праверку. Інфармацыю перадалі ва ўпраўленне па адукацыі Маладзечанскага райвыканкама. Далейшы лёс немаўляці вырашаць органы апекі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Кіроўца прысабечыў 12 тысяч і за іх адзначыў Новы год

ВІЛЕЙКА

Напярэдадні Новага года ў Ждановіцкі аддзел міліцыі Мінскага РУУС звярнуўся 34-гадовы мінчанін. Ён распавёў, што папрасіў свайго кіроўцу, жыхара Вілейшчыны, які вяртаўся з рэйса, забраць у знаёмага ў Маскве 12 тысяч долараў і прывезці яму.

Долары ў Маскве кіроўца забраў. Але па прыбыцці ў Мінск перадаў бацьку прадпрымальніка машыну, толькі пра грошы змаўчаў. На тэлефонныя званкі адказваць перастаў. Пацярпелы растлумачыў, што супрацоўніку 41 год, ён з Вілейскага раёна і працуе ў яго каля месяца.

Аператыўнікі крымінальнага вышуку ўстанавілі месцазнаходжанне мужчыны і 4 студзеня яго затрымалі. Да таго часу ён уже паспеў змяніць наймаую кватэру, але прызнавацца ў прысабечванні чужых грошай не спяшаўся. Казаў, грошы ў яго скралі ў дарозе.

Пасля працяглай размовы падазраваны ўсё ж прызнаўся ў зробленым, удакладніўшы, што з усёй сумы ў яго засталося тры з паловай тысячы. Ён гэтыя грошы аддаў. Аднак пазней, падчасператрусу, у яго знайшлі яшчэ 6400 долараў. Як і меркавалі аператыўнікі, забраўшы грошы, кіроўца пераехаў, спадзеючыся заблытаць сляды, і стаў шыкоўна адзначаць Новы год.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



За інтым-паслугі маладзечанец заплаціў дзяўчыне 25 рублёў.

# Маладзечанец уцягнуў у прастытуцыю 16-гадовую дзяўчыну

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанская міліцыя выйшла на беспрацоўнага 30-гадовага мясцовага жыхара, які схіліў 16-гадовую дзяўчыну да інтым-паслуг. Мужчына заплаціў ёй 25 рублёў.**

Цяпер маладзечанец з'яўляецца фігурантам крымінальнай справы па частцы 2 артыкула 171 Крымінальнага кодэкса «Арганізацыя і (або) выкарыстанне занятку прастытуцыяй або стварэнне ўмоў для занятку прастытуцыяй».

Ахвяру мужчына апрацоўваў на сайце знаёмстваў, дзе скантактаваўся з непаўналетняй, узяўшы жаночае імя Алена. Незнаёмка па той бок экрана лёгка ўвайшла ў давер да дзяўчыны і неўзабаве распавяла аб сваім лёгкім заробку. Дарэчы, асабістая перапіска паміж імі ішла і ў сацыяльных сетках, дзе мужчына быў зарэгістраваны пад імем і дзявоцкім прозвішчам сваёй жонкі.

Падчас размовы мужчына стаў схіляць да аказання сэксуальных паслуг маладзечанку, пра ўзрост якой яму было дакладна вядома.

**Паддаўшыся на ўгаворы, юная дзяўчына пагадзілася на рамантычнае спатканне за ўзнагароджанне.**

Першага кліента для дзяўчыны знайшла «Алена», якая гэтым кліентам і апынулася, але ўжо ў сваім сапраўдным мужчынскім абліччы.

Дзеянням мужчыны далі прававую ацэнку. Яму пагражае да дзесяці гадоў пазбаўлення свабоды са штрафам. Раней ён ужо быў судзімы за п'янае кіраванне, прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці на правапарушэнні ў сферы сямейна-бытавых адносін.

**РАУС Маладзечна.**

## Асудзілі кіроўцу, які ўчыніў смяротнае ДТЗ

ВІЛЕЙКА

Днямі суд Вілейскага раёна асудзіў кіроўцу, што ўчыніў ДТЗ, у якім загінуў пасажыр, паведамілі ў Вілейскай пракуратуры.

Кіроўца ў момант аварыі быў нецвярозы і ехаў з хуткасцю не менш за 84,5 км/г. У нейкі момант ён не справіўся з кіраваннем, выехаў на правую ўзбочыну і ўрэзаўся ў дрэва.

Пасажыр, які ехаў з ім, ад атрыманых цяжкіх цялесных пашкоджанняў памёр на месцы. Суд прызнаў кіроўцу вінаватым і прысудзіў яму чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. Таксама ён пазбаўлены права кіраваць аўтамабілем на пяць гадоў. Па месцы адбыцця пакарання мужчына павінны будзе прайсці прымусовае лячэнне ад хранічнага алкагалізму.

Фігуранта ўзялі пад варту ў зале суда. Прысуд у законную сілу не ўступіў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Каля ГЦ «Спадарожнік» аўтамабіль урэзаўся ў дрэва

МАЛАДЗЕЧНА

8 студзеня каля гадзіны дня здарылася аварыя ля ГЦ «Спадарожнік». Адна машына стукнулася ў дрэва. А кіроўца другой з'ехаў з месца здарэння, расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

42-гадовая мінчанка ехала па Вялікім Гасцінцы з боку Мінска ў бок Смаргоні на аўтамабілі «Панціяк» прыкладна 40 км/г у крайняй правай паласе. Каля крамы «Міля» выязджаў з паркоўкі аўтамабіль. Ён стварыў аварыйную абстаноўку.

Жанчына-кіроўца на «Панціяку» мусіла пазбягаць сутыкнення, браць правей, рэзка тармазіць. У выніку яе машыну развярнула, і яна стукнулася ў дрэва. Другі ўдзельнік ДТП з'ехаў з месца здарэння. Ніхто не пацярпеў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На возеры Вішнева патануў рыбак

СМАРГОНЬ

5 студзеня каля 17 гадзін на возеры Вішнева патануў 47-гадовы рыбак.

Са слоў яго таварышаў, мужчына вырашыў па лёдзе скараціць шлях дадому. На раніцу, заўважыўшы, што знаёмага няма, рыбакі выклікалі ратавальнікаў і паказалі меркаванае месца трагедыі.

**Паводле shliah.by.**

## Гарэў жылы дом. Пацярпела гаспадыня

АСТРАВЕЦ

Пра пажар астравецкім ратавальнікам паведамілі 9 студзеня, раніцай, у 7:13.

Гарэў жылы дом у вёсцы Петраполь Варнянскага сельсавета. Сталая гаспадыня спрабавала сама патушыць пажар. У выніку атрымала тэрмічныя апёкі.

Прычыну пажару высвятляюць.

**Паводле МНС.**

## На трасе Р28 перакулілася аўтацыстэрна са смалой

МАЛАДЗЕЧНА
МЯДЗЕЛ

У ноч на 13 студзеня на трасе Р28 Мінск-Маладзечна-Нарач перавярнулася аўтацыстэрна, заблакаваўшы рух транспарту. Пра гэта паведамілі ў прэс-службе МУС.

Папярэдне ўстаноўлена, што кіроўца вялікагруза ехаў з боку Мінска, не ўлічыў дарожныя ўмовы, стан грузу і дапусціў занос машыны.

У выніку грузавік прабіў металічную агароджу, выехаў на паласу сустрэчнага руху і перакуліўся.

Аўтацыстэрна перавозіла 21 тону смалы. У выніку ДТЗ каля трохсот літраў вылілася на праезную частку. У аварыі ніхто не пацярпеў. Рух па трасе быў заблакаваны.

**Паводле tut.by.**

## На Вялікім Гасцінцы сутыкнуліся аўтамабілі. Ёсць пацярпелыя

МАЛАДЗЕЧНА

8 студзеня каля дзвюх гадзін дня здарылася аварыя на Вялікім Гасцінцы. Сутыкнуліся два аўтамабілі. Ёсць пацярпелыя. Пра падрабязнасці здарэння расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

— Кіроўца-маладзечанец ехаў на аўтамабілі «Опель-Астра» па Вялікім Гасцінцы ў кірунку Смаргоні. Ён няправільна выбраў хуткасць, не ўлічыў умовы надвор'я. У выніку не справіўся з кіраваннем і выехаў на сустрэчную паласу. Тут сутыкнуўся з аўтамабілем «Фіят-Дуката», — расказала інспектар.

Па словах Дыяны Галузы, пацярпелі пасажыры ў «Опелі-Астры». У 32-гадовай жанчыны – закрытая чэрапна-мазгавая траўма, пераломы рэбраў і ўдары. У 43-гадовага мужчыны – таксама закрытая чэрапна-мазгавая траўма, пералом перадплечча, удары. Медыкі агледзелі 10-гадовае дзіця, якое ехала ў «Опелі». Яно не пацярпела.

Кіроўцы былі цвярозыя, прышпіленыя рамянямі бяспекі, на машынах стаялі зімовыя шыны. Але на «Фіят-Дуката» вышыня пратэктара была ніжэй за дапушчальную. Склалі пратакол.

Матэрыял на праверцы ў АДАІ.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «Лепш пагадзіцца, чым падвергнуцца гвалту». Асуджаны маладзечанец – пра справу аб абразе начальніка міліцыі

**У «Рэгіянальнай газеце» №1 за 2021 год мы пісалі пра Паўла Берасневa, якога асудзілі на паўтара года абмежавання волі за абразу начальніка маладзечанскай міліцыі.**

Павел Бераснеў даслаў у рэдакцыю ліст, у якім расказаў пра прысуд і матыў сваіх дзеянняў у верасні 2020 года, калі яго затрымалі.

### Пісаў не пра начальніка РАУС

– Я прыдумаў асабісты матыў пра тое, што надпіс датычыцца начальніка РАУС Прыгары. А насамрэч пісаў яго, адрасуючы Міхаілу Прыгару. Розніца істотная.

> Міхаіла Прыгару асудзілі ў 2019 годзе за карупцыйныя злачынствы.

Калі мяне пры затрыманні абвінавацілі ў тым, што надпіс пра начальніка РАУС Прыгару, пры гэтым беспадстаўна распылілі ў твар балончыкам пярцовы газ, калі я сам лёг на асфальт і ўсяго толькі папрасіў паказаць пасведчанне, каб упэўніцца, што мяне затрымалі менавіта міліцыянеры, а не шпана, я зразумеў, што лепш пагадзіцца з іх версіяй адрасата майго надпісу, чым падвергнуцца яшчэ якому-небудзь гвалту. Пры неадэкватным гвалце апраўдвацца – не лепшая тактыка. Я палічыў за лепшае не спрачацца з «красаўцам у цывільным», бо звязаў неабгрунтаванае прымяненне спецсродкаў да мяне з асобай згаданага начальніка РАУС.

Таму разам з бояззю, што мне інкрымінуюць хуліганства, і прыдумаў асабісты матыў непрыязнасці да Прыгары В. С.

### Шкода ад надпісу

– Я лічыў і лічу свой учынак адміністрацыйным. З улікам таго, што фасад будынка шматразова замалёўвалі і я нанёс свой надпіс панад фарбай, а значыць, не мог сапсаваць бетонна-цэментавыя панэлі – яны ўжо да майго надпісу былі «сапсаваныя». Шкода ад майго надпісу павінна была скласціся з цаны фарбы і працы па замалёўванні графіці. Шкода відавочна малазначная.

Адсутнасць жа цынізму ў надпісе вынікае з паказанняў эксперта-лінгвіста: надпіс не з'яўляецца нецэнзурным, а значыць, і непрыстойным. Ён мог быць прыняты Прыгарам В.С. у свой адрас, але абразай не можа быць прызнаны.

### «Чаму не звярнуўся з позвай аб аднаўленні гонару і годнасці?»

– Справа, на мой погляд, «высмактаная з пальца», заснаваная на дзіўнай і гіпертрафаванай пакрыўджанасці кіраўніка міліцыі нашага горада, які ведаў пра надпіс і, канешне, пра мае тлумачэнні ўжо на наступную раніцу пасля майго затрымання, але пакрыўдзіўся толькі 19 лістапада. Дзіўная прабуксоўка і нелагічная, калі ўзяць на веру паказанні пацярпелага аб тым, што надпіс прынёс яму маральныя пакуты. Калі гэта так, то чаму ён не звярнуўся з позвай аб аднаўленні гонару і годнасці і прыцягненні мяне да адказнасці адразу? Што перашкодзіла?

### Фота надпісу ўпершыню з'явілася ў праўладным тэлеграм-канале

– Сваю крыўду на мяне Прыгара В.С. спаўна спагнаў, калі мяне ў кайданках сфатаграфаваў прэс-афіцэр РАУС супраць маёй волі ў памяшканні аддзялення міліцыі ў час, калі афармлялі маё затрыманне па крымінальным артыкуле 341, а не за абразу прадстаўніка ўлады.

Праз некалькі гадзін гэта фота мяне ў кайданках разам з фотаздымкам надпісу, фота з маёй асабістай справы афіцэра (між іншым з закрытай базы дадзеных МУС Беларусі) з'явіліся ў тэлеграм-канале «Змагары Міншчыны» разам з нумарам майго асабістага тэлефона. У наяўнасці злачыннае выдаванне маіх асабістых дадзеных, інфармацыі з крымінальнай справы без санкцыі следчага, пракурора.

Адзначу, што надпіс быў замаляваны праз паўтары гадзіны пасля яго нанясення, ноччу 14 верасня. Грамадскасць пра яго нічога не даведалася, калі б здымак надпісу не быў размешчаны на вышэй згаданым праўладным тэлеграм-канале.

Сюжэт гэты варты гогалеўскага «Рэвізора», дзе ўнтэр-афіцэрская ўдава сама сябе высекла.

**Павел БЕРАСНЕЎ.**

**Фота забяспечанае аўтарам.**



Бераснеў лічыць, што яго павінны былі судзіць па адміністрацыйным артыкуле.

> «РГ» адкрытая для выказвання і іншых бакоў канфлікту. Звязацца можна праз пошту regionnews@rh.by.

## У Ашмянах мясцовага жыхара будуць судзіць за тэрарызм

**21 снежня прэс-служба Генеральнай пракуратуры паведаміла, што крымінальную справу па чатырох артыкулах накіравалі ў суд Ашмянскага раёна.**

55-гадоваму мясцоваму жыхару інкрымінуюць падбухторванне да акту тэрарызму, незаконнае набыццё і захоўванне боепрыпасаў і выбуховых рэчываў, а таксама знішчэнне афіцыйных дакументаў.

- **ч.5 арт.16 «Саўдзел у злачынстве».**
- **ч.2 арт.289 «Акт тэрарызму».** Санкцыя: пазбаўленне волі ад 8 да 20 год.
- **ч.2 арт.295 «Незаконныя дзеянні ў адносінах да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў».** Санкцыя: выпраўленчыя працы да 2 год, арышт ці абмежаванне волі да 5 год, пазбаўленне волі да 7 год са штрафам альбо без.
- **ч.1 арт.377 «Крадзеж, знішчэнне, пашкоджанне альбо ўтойванне дакументаў, штампаў, пячатак, крадзеж бланкаў».** Санкцыя: грамадскія працы, штраф, выпраўленчыя працы да 2 год, альбо арышт, абмежаванне, пазбаўленне волі да 2 год.

> **Згодна з матэрыяламі справы, мужчына 14 кастрычніка 2020 года размясціў у адной з груп Тэлеграм-канала паведамленні, у якіх былі заклікі да пашкоджання кактэйлямі Молатава будынка КГБ, падпалу пракуратуры Ашмянскага раёна і аўтамабіляў супрацоўнікаў органаў унутраных спраў.**

Абвінавачаны разарваў пастанову следчага абператрусе, калі да яго прыйшлі супрацоўнікі сілавых структур. Падчас ператрусу ў мужчыны знайшлі боепрыпасы і выбуховыя рэчывы.

Крымінальную справу павінны разглядаць у бліжэйшы час у судзе. Абвінавачаны знаходзіцца пад вартай яшчэ з кастрычніка.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота: Youtube-канал МУС РБ.

Абвінавачаны падчас допыту.

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Вакуум тармазны ГАЗ-53. Т. МТС (8-029) 7589705.

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Рухавік Д-240, ЗМЗ-53, А-01 у любым стане, запчасткі да іх. Т. (8-029) 6663675.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, цэнтр, 71 кв. м. Т. (8-044) 7626113.

• Гараж у ГК-21 у Маладзечне па вул. Ф.Скарыны. Т. (8-029) 3069199.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

### ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру ў цэнтры г. Маладзечна з мэбляй. Т. (8-029) 3790722.

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ


**РЕМОНТ ТЕЛЕВИЗОРОВ И СПУТНИКОВЫХ АНТЕНН**
Тел. (8-029) **561-39-72**
ИП Токмаков Г.В. УНП 692022633


• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Паслугі сантэхніка. Ацяпленне. Водазабеспячэнне. Усе віды работ. ІП Трубач С.А. УНП 692250027. Т. (8-029) 7018908.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зяленко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

**Бытавая тэхніка**

• Швейныя машынкі нажныя «Орша» 2 штукі. Т. МТС (8-029) 7589705.

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Дамашняе малако. Многа. Т. (8-029) 6162240.*

• Фотаапараты «Зеніт», «Альбар», аб'ектывы розныя. Т. (8-029) 2988005.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 А1.

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна:

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |

**«Рэгіянальная газета»** шукае **рэкламнага агента**

Заробак неабмежаваны і залежыць ад колькасці арганізаванай рэкламы. Калі вы камунікабельныя, умееце падтрымліваць гаворку, настойлівыя і адказныя, то дасылайце сваё рэзюмэ на адрас **reklama@rh.by.**

**Архіў «Рэгіянальнай газеты» 1995-2001 і 2013-2019 у вольным доступе на сайце Kamunikat.org**

Адсканнуйце QR-код або скарыстайцеся кароткай спасылкай: **bit.ly/kamrh**

kamunikat.org Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка


**ВІДЭАРЭКЛАМА** на Rh.by
**Напішам** сцэнарый
**Здымем**, агучым, зробім мантаж
**Размесцім** у нашых медыях
**Партнёрства**, прадакт-плэйсмент
(8-0176) **53-78-04**
**reklama@rh.by**






Натяжные потолки
Окна ПВХ
Двери
Рольшторы
замер, доставка, монтаж
беспроцентная рассрочка
стильно. качественно. доступно
8(044)570-13-14
8(033)385-13-14
ИП Козел В.Е. УНП 691517355

ООО «Халес» приглашает на работу
**ВЫСОКОКВАЛИФИЦИРОВАННЫХ СТОЛЯРОВ-СТАНОЧНИКОВ 4-5 РАЗРЯДОВ**
*Зарплата от 1000 руб.*
По вопросам обращаться в отдел кадров по телефону
(8-01592) **41-395**
УНП 500589892

ЗАО «Мехатроника» г. Вилейка
ТРЕБУЕТСЯ
**КОНТРОЛЕР ДЕТАЛЕЙ И ПРИБОРОВ**
*Среднее специальное или высшее образование*
*Умение работать с технической документацией (читать чертежи)*
*Опыт работы не менее 2-х лет в отделе технического контроля либо аналогичной деятельности*
**Размер заработной платы по результатам собеседования**
Тел. (8-01771) **713-00**
УНП 691174462

У НАС НЕДОРОГО!
ООО Проф Вит Юр
-Окна ПВХ
-ДВЕРИ металлические межкомнатные
-НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ
скидки 30%
РАССРОЧКА!
vityr.by
Звоните НАМ:
8 029 8 033 690-32-22
*Подробности акции уточняйте у менеджера
ООО «ПрофВитЮр» УНП 692023827

РИТУАЛЬНЫЕ УСЛУГИ И ПРИНАДЛЕЖНОСТИ 24/7
ПАМЯТНИКИ
РАССРОЧКА. СКИДКИ – 15%
Выезд для консультации БЕСПЛАТНО
+375 33 6-261-261
ИП Слуцкий Ю. В. УНП 691893151

**МЕБЕЛЬ Люкс**
Изготовление корпусной мебели под заказ любой сложности.
Собственное производство.
Доставка, сборка.
Тел. (8-029) **605-50-12**
(8-029) **305-50-13**
ООО «Завод Пенопласта» УНП 591179569

**ВОКНЫ танна** ад вытворцы
Тэл. (8-029) **394-64-99**
(8-029) **763-00-32**

**БУРЕНИЕ СКВАЖИН на воду** всех видов
*Выгодные цены!*
Тел. (8-044) **5486213**
ИП Пикулик А.Л. УНП 193411127

• **АРМАТУРА**
• **ТРУБЫ**
• **МЕТАЛЛОПРОКАТ**
• **ПРОФНАСТИЛ**
РЕЗКА, ДОСТАВКА
**Аренда автокрана**
г.Молодечно, ул. Рабочая, 8а/1
(8-0176) **58-04-76, 50-56-53**
(8-029) **196-90-53 (-23), (-43)**
ООО «Молметаллоконтракт» УНП 691398156

**Рэклама ў «РГ»**
8 (0176) **53-78-04**
**reklama@rh.by**


**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**У вас ёсць магчымасць зрабіць прыемнае родным і блізкім – размясціць віншаванне на старонках нашай газеты!**

Кошт – ад 2,50 рубля.

**Наш адрас:** г. Маладзечна, вул. Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518 (ГЦ «Тройка»)

**Тэл.** (8-0176) **53-78-04**
(8-029) **676-84-20**
(8-029) **573-28-47**

# Дазволілі адпачынак для самаізаляцыі і бальнічны без паходу да доктара

**Наймальнікам дазволілі адпраўляць работнікаў у аплатныя адпачынкі для самаізаляцыі і адпускаць на бальнічны без звароту да доктара. Гэтыя новаўвядзенні прадугледжаны мерамі падтрымкі эканомікі з-за неспрыяльнай эпідсітуацыі.**




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Адпраўляць работнікаў у аплатныя адпачынкі для самаізаляцыі і адпускаць на бальнічны цяпер можна без звароту да доктара.

### Адпачынкі для самаізаляцыі

Наймальнікам дазволілі даваць адпачынак работнікам для самаізаляцыі. Ёсць умова: месца самаізаляцыі вызначае наймальнік.

> Такі адпачынак аплачваецца не ніжэй за устаноўленую тарыфную стаўку, аклад, калі ў калектыўным дагаворы ці пагадненні не прапісаны іншы варыянт.

Лакальным дакументам на прадпрыемстве не могуць быць прадугледжаныя выплаты ніжэйшыя, чым устаноўленая мінімальная планка заканадаўствам па працы. Гэта значыць, што ў калектыўнай дамове можа быць прапісаная больш высокая сума, чым устаноўлены законамі мінімум, але ніяк не ніжэй.

Пры гэтым працягласць такога адпачынку павінны вызначаць па пагадненні бакоў.

### Аплачваецца бальнічны да трох дзён без паходу да доктара

Наймальнікам таксама дазволілі адпускаць работнікаў з-за хворага стану на бальнічныя да трох дзён без паходу да дактароў, гэта значыць, без афармлення лістка непрацаздольнасці.

Цяпер можна адлячацца дома і не ісці ў паліклініку па бальнічны.

Але скарыстацца такой магчымасцю можна толькі тры дні сумарна, пакуль дзейнічае ўказ. Гэта значыць, можна ўзяць такі бальнічны, да прыкладу, тры разы па адным дні ці за раз тры дні.

У прыватных кампаніях такія бальнічныя могуць аплачваццa. У дакументе прапісана, што «захаванне сярэдняга заробку за перыяд вызвалення ад працы можа быць прадугледжана калектыўнай дамовай, іншым лакальным прававым актам арганізацыі». Выключэнне – бюджэтныя арганізацыі.

Ураду раней прапаноўвалі ўвесці аплатны бальнічны да пяці дзён без паходу да доктара.

### Прастоі могуць быць бестэрміновымі

Наймальнікам таксама дазволілі аб'яўляць прастоі з-за неспрыяльнай эпідсітуацыі без абмежавання агульнай працягласці на працягу каляндарнага года. У звычайнай сітуацыі, не звязанай з эпідсітуацыяй, прастой не можа быць больш за шэсць месяцаў у годзе.

Пры прастоі больш за шэсць месяцаў у годзе работнік можа прасіць датэрміновае скасаванне кантракту або працоўнай дамовы.

**Паводле tut.by.**

# Дайджэст: Беларусь – у небяспечным спісе па COVID-19 і газ па новым кошце

**Прапануем значныя падзеі, што адбываліся ў Беларусі за апошні тыдзень.**

### Украіна абнавіла спіс краін «чырвонай зоны» па COVID-19

На сайце ўкраінскага Міністэрства аховы здароўя абнавіўся спіс краін, якія лічацца небяспечнымі для паездак з-за развіцця пандэміі. Туды трапіла Беларусь. Да чырвонай зоны аднеслі краіны, у якіх хварэюць часцей, чым ва Украіне. Пасля вяртання адтуль неабходна адпраўляцца на 14-дзённую самаізаляцыю з-за высокай рызыкі быць заражаным падчас паездкі. Каб не праходзіць карацін, можна на працягу 24 гадзін пасля перасячэння мяжы здаць ПЦР-тэст і дачакацца адмоўнага выніку. Патэнцыйна небяспечныя застаюцца 55 дзяржаў.

### Памёр мітрапаліт Філарэт

Памёр мітрапаліт Філарэт (Кірыл Вахрамееў). Ад 31 студзеня 1990 да 25 снежня 2013 года ён з'яўляўся кіраўніком Беларускай Праваслаўнай Царквы. У снежні Філарэт перанёс каронавірус. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў Маскве. У 1970-1980-я служыў у Еўропе, у 1981-1989 – старшыня аддзела знешніх царкоўных зносін РПЦ. У 1990-1995 быў дэпутатам Вярхоўнага Савета 12 склікання. Герой Беларусі.

### Падаражэюць некаторыя ласункі

Ад 1 студзеня ў Беларусі павысілі ПДВ (падатак на дададзеную вартасць) на некаторыя харчовыя тавары пры іх продажы і ўвозе ў краіну. Змены прадугледжаныя абноўленым Падатковым кодэксам.

– Ад 1 студзеня 2021 асобныя пазіцыі харчовых тавараў пры іх рэалізацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, пры іх увозе на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь абкладаюцца ПДВ па стаўцы ў памеры 20% замест раней ужывальнай стаўкі ПДВ у памеры 10% – адзначаюць у Міністэрстве.

У Беларусі да гэтага года хлеб і мучныя кандытарскія вырабы ў цэлым абкладаліся ПДВ у 10%. Толькі на некаторыя пазіцыі, у тым ліку на чыпсы і снэкі, быў падатак у 20%.

Ад гэтага года ПДВ у 20% абкладаюцца акрамя чыпсаў і снэкаў таксама салодкае сухое печыва, кексы, вафлі, вафельныя трубачкі, рулеты, вафельныя пласціны, рысавая і соевая папера.

### Для Беларусі вырасла цана на расійскі газ

Цана на расійскі прыродны газ для Беларусі на 2021 год складзе 128,5 долара за тысячу кубаметраў.

У канцы снежня 2020 года «Газпрам» паведаміў, што кіраўнік кампаніі **Аляксей Мілер** і беларускі міністр энергетыкі **Віктар Каранкевіч** у Санкт-Пецярбургу падпісалі пратакол аб парадку фарміравання цэн пры пастаўцы газу ў краіну ў 2021 годзе. Пры гэтым цана паставак газу ў паведамленні расійскай кампаніі пазначаная не была. Пазней Мінэнерга Беларусі ўдакладніла, што яна будзе практычна на ўзроўні 2020 года, у той жа час канкрэтную велічыню ведамства таксама не назвала.

Цана на пастаўку расійскага газу для Мінска ў 2020 годзе складала 127 долараў за тысячу кубаметраў, хоць беларускі бок настойваў на яе зніжэнні.

**Паводле «Нашай Нівы», tut.by, Інтэрфакс.**

# У Маладзечне адчыняць інклюзіўную пякарню

**У мінулым годзе ў Мінску працавала сацыяльная пякарня «Добрае печыва». Гэта першы падобны праект у Беларусі – большасць работнікаў ініцыятывы маюць ментальную інваліднасць.**


Фота dobrae.by.

Вось так выглядала пякарня ў Мінску.

Пра тое, чаму пякарня пераязджае ў Маладзечна, хто можа шукаць там працу і калі маладзечанцы змогуць пачаставацца добрым печывам, мы распыталі заснавальніка сацыяльнай пякарні **Дзмітрыя Багданава**.

Каб стварыць пякарню, Дзмітры ўкладаў свае грошы, а таксама атрымаў фінансаванне як пераможца 11-га конкурсу сацыяльных праектаў Social Weekend. Абарот пякарні пастаянна рос.

Але спыніць сацыяльны бізнес давялося праз каронавірус. Так як пераважна кліентамі былі кампаніі, што пайшлі ў сакавіку-красавіку мінулага года на ўдалёнку, арганізацыя засталася без заказаў.

### Будзе не толькі пякарня

Заснавальнік лічыць, што найхутчэй адкрыць пякарню ў Маладзечне змогуць вясной. Цяпер Дзмітры Багданаў заняты тым, што шукае памяшканне. Ці будзе яно каля стрыт-фуда або ў іншым месцы, пакуль невядома.

Печыва спярша будуць выпускаць трох гатункаў, як і на мінулым месцы, – аўсянае, шакаладнае і сырнае. Яго можна набыць у пякарні, а можна заказаць дастаўку. Магчыма, пазней асартымент разнастаяць.

> «Добрае печыва» не выкарыстоўвае аднаразовую ўпакоўку, што ацэняць жыхары, якія клапоцяцца пра навакольнае асяроддзе.

У Маладзечне будзе працаваць разам з пякарняй і кавярня, так што можна будзе адразу не толькі купіць слодыч, але і папіць гарачы напой, пасядзець разам з сябрамі.

### Каго запрашаюць

У маладзечанскай сацыяльнай пякарні будзе шэраг вакансій. Прымуць у штат пяцярых работнікаў з ментальнай інваліднасцю, якія будуць працаваць пад кіраўніцтвам прафесійнага кандытара. Таксама чакаюць барыста, якім можа стаць чалавек на вазку. Да каманды далучацца кур'ер і бухгалтар.

Па пытаннях працаўладкавання можна звяртацца праз кантакты, якія знойдзеце на сайце **dobrae.by.**

### Як атрымалася вярнуць справу

Каб ініцыятыва сацыяльнай пякарні атрымала працяг, Дзмітры паўдзельнічаў у конкурсе ініцыятыў у межах праекта «Падтрымка эканамічнага развіцця на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь». Праект выконваюць у межах Праграмы развіцця ААН, а фінансуе яго Еўрасаюз.

Ахвотныя маглі падаць на конкурс заяўкі бізнес-ідэй. Сярод іх выбіралі пераможцаў, якія атрымалі фінансавую падтрымку на выкананне ідэі. Маладзечаншчына – адзін з раёнаў, дзе рэалізуюць праграму. Таму пякарня і будзе працаваць у Маладзечне – фінансаванне неабходна асвоіць у раёне, дзе выйгралі конкурс.

Ініцыятыва мае фінансаванне на шэсць месяцаў працы. Ці будзе сацыяльная пякарня працаваць пасля гэтага тэрміну, залежыць ад эканамічнага поспеху.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77



## Хочаце, каб пра ваш бізнес даведаліся нашы чытачы?

Расказваем сакрэт: штогод мы публікуем месяцавы каляндар садавода і агародніка. Яго з нецярпеннем чакаюць чытачы, захоўваюць і карыстаюцца цягам года. Дзякуючы календару збіраюць багатыя ўраджаі і ведаюць, як вырасціць самыя капрызныя культуры.

У календары будзе прадугледжанае месца для рэкламы. Гэта выдатная прапанова для тых, хто хоча, каб інфармацыя пра вас была заўсёды пад рукой.

**Месяцавы каляндар садавода і агародніка мы апублікуем у №6 за 5 лютага.**



**Калі вы хочаце падаць суперэфектыўную рэкламу, спяшайцеся заказаць!**

Кантакты: **reklama@rh.by**, (8-0176) **53-78-04**, (8-029) **676-84-20**, (8-029) **573-28-47.**

